ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 19 (2369)

12 мая 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.



## ДВА ДНІ МАЯ Ў ЧЫРВОНЫХ КОЛЕРАХ

**Раней мы жылі па прынцыпу: я як і ўвесь савецкі народ. Цяпер гэтае "я" ўсё выразней індывідуалізуецца і кожны хоча жыць сам па сабе. Увесь савецкі народ 1 мая "дружна" хадзіў на дэманстрацыі і мітынгі, пільна дбаючы аб міжнароднай салідарнасці працоўных. Нягледзячы на іншы час, сёлетні Першамай сабраў у сталіцы Беларусі пад чырвоныя сцягі шматтысячны натоўп. Адметнасць тая, што людзі ішлі на плошчу Незалежнасці без прымусу. Адных вяла сюды настальгія па камуністычнаму мінуламу, другіх штурхала сацыяльная роспач. Але абышлося ўсё без канфліктаў і ўмяшання міліцыі.**

**Куды больш людзей сцякалася ў храмы з кошыкамі, поўнымі велікодных чырвоных яечак, з узнёслымі пачуццямі і верай у найвышэйшую мудрасць слухалі яны малебен і цудоўныя пасхальныя перазвоны. Свята Вялікадня, якое сёлета супала з пралетарскім Першамаем, усё-такі больш дало людзям -- яно напоўніла іх душы спакоем і вялікай надзеяй на Уваскрэсенне.**

**Ян ГІЛУЦЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**




*НАВУКОВЫ ПОШУК*

# "ТАМУ ШТО БЕЛАРУСЬ МАЯ РАДЗІМА..."

Расійская нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу па праву ганарыцца не толькі унікальнымі кніжнымі зборамі, але і надзвычай багатымі калекцыямі рукапісаў і дакументаў. Сюды ў розныя часы трапілі цэлыя архівы многіх культурных дзеячаў і ўстаноў. Многае з гэтых збораў самым непасрэдным чынам датычыць Беларусі.

Не так даўно супрацоўнікі рукапіснага аддзела бібліятэкі (тады яна называлася яшчэ Публічная бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе) выдалі анатаваны каталог "Апісанне архіва Літаратурнага фонду".

Найперш два словы пра сам Літфонд. Яго мэты раскрывае поўная назва -- "Таварыства для дапамогі бедным літаратарам і вучоным". Утварылася гэтая культурна-дабрачынная арганізацыя ў 1859 годзе па ініцыятыве передавой грамадскасці. Вядома фатаграфія гэтага часу, на ёй -- першы камітэт Літфонду. У цэнтры -- у залатых эпалетах -- сядзіць старшыня -- бравы генерал Ягор Пятровіч Кавалеўскі, брат тагачаснага міністра народнай асветы, прагрэсіўны дзеяч (Цютчаў сказаў пра яго: "Он на Руси был светлый человек"). Пазнаём каларытную масіўную постаць Тургенева, за ім -- гэтым разам нейкі не надта прыкметны -- Чарнышэўскі. Злева ў профіль -- рукі за спіной, схіленае долу чало -- стаіць наш зямляк з Віцебска, уплывовы крытык Сцяпан Сямёнавіч Дудышкін, справа прыладзіўся сакратар камітэта гісторык літаратуры Аляксей Дзмітрыевіч Галахаў. І яшчэ многія іншыя вядомыя тагачасныя літаратары і грамадскія дзеячы.

Архіў Літфонду таксама з цягам часу апынуўся ў Публічцы (скарыстаем для сціслаcці звыклае скарачэнне). Ці варта гаварыць, які гэта каштоўны матэрыял для гісторыка. Галоўная частка выдадзенага ў 1978 годзе каталога -- паказальнік асоб, што ў розныя часы звярталіся ў Літфонд па дапамогу. Праглядаючы яго, знайшоў такія радкі: "Монкевич Иван Осипович, переводчик басни Крылова "Демьянова уха" на белорусский язык". Далей ішла спасылка на адпаведныя старонкі журнала паседжанняў камітэта Літфонду 1859--1864 гадоў. Манкевіч?.. Гэта ж зусім новае імя забытага беларускага пісьменніка-перакладчыка часоў В. Дуніна-Марцінкевіча і загадкавага "Тараса на Парнасе". Вядома, што Крылова на беларускую мову перакладалі ў канцы мінулага стагоддзя А. Абуховіч, Ф. Багушэвіч, услед за імі М. Косіч. І вось, аказваецца, пераўвасабленні рабіліся ўжо значна раней. Захацелася пайсці па гэтым следзе.

Па нашай просьбе Публічная бібліятэка прыслала фотакопію старонак з архіва Літфонду, дзе размова пра Манкевіча. Тэкст вельмі кароткі. 23 снежня 1860 года камітэт разгледзеў:

**"Письмо к А.Д.Галахову от Ивана Осиповича Монкевича (в Старом Быхове, Могилевской губернии) с приложением перевода басни Крылова "Демьянова уха" на белорусское наречие. Г. Монкевич просит выслать ему 25 рублей на напечатание этого перевода".**

За земляка мог заступіцца, падтрымаць Дудышкін, але як там было ў сапраўднасці, мы не ведаем, працэс абгаварэння не фіксаваўся. Вынікі ж аказаліся для Манкевіча неспрыяльныя. Пастанавілі:

**"Отказать на основании того, что средства Общества не дозволяют ему приступить к изданию сочинений".**

Выходзіць, не знайшлося гэты раз у Літфондзе "четвертной" на добрую справу. (Дарэчы, як яўляў сабе Манкевіч надрукаванне перакладу? Відаць, асобнай брашурай, бо інакш навошта грошы?).

Само пісьмо Манкевіча і тэкст перакладу пакуль што не выяўлены.

Мы паспрабавалі ўстанавіць асобу перакладчыка Івана Восіпавіча Манкевіча, які жыў у 1860 годзе ў Старым Быхаве (так называўся некалі сённяшні Быхаў). Не вельмі гэта проста. Спачатку высветлілася толькі, што Манкевічы даволі пашыранае шляхецкае прозвішча на Магілёўшчыне, у тым ліку ў былым Быхаўскім павеце. У "Памятной книжке Могилевской губернии" на 1863 год ёсць два Манкевічы, абодва з Быхаўшчыны. Штабс-капітан Канстанцін Пятровіч Манкевіч лічыўся засядацелем ад дваранства ў Быхаўскім павятовым судзе, Манкевіч Аўгуст Фаміч -- калежскі рэгістратар -- быў дэпутатам ад быхаўскага дваранства ў губернскай дэпутацкай зборні. З архіўных спраў мінскага гістарычнага архіва даведваемся, што згаданы Канстанцін Манкевіч разам з братам Аляксандрам валодаў паблізу Быхава аднsocна невялікім маёнткам Камарычы, закладзеным у Пецярбургскай "сохранной казне".

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*УЗНАГАРОДЫ АЛІМПІЙЦАМ*

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб і Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч сустрэліся са спартсменамі рэспублікі, якія абаранялі гонар Беларусі на зімніх Алімпійскіх гульнях у Лілехамеры. Спартсменам былі ўручаны Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля ўручэння ўзнагарод.**



*ДЗЯРЖКАМСТАТ ПАВЕДАМЛЯЕ*

### НІЧОГА СУЦЯШАЛЬНАГА

Паводле даных Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь, наш нацыянальны даход знізіўся ў параўнанні са студзенем--сакавіком мінулага года на 38 працэнтаў. У прамысловасці падзенне склала 35 працэнтаў, у будаўніцтве -- 27, у сельскай гаспадарцы -- 6.

На прадпрыемствах Камітэта па нафце і хіміі вытворчасць прадукцыі да ўзроўню мінулага года склала 48,7 працэнта.

Калі ў І квартале 1993 года было выпушчана 9 100 аўтамабіляў, то ў 1994 годзе -- 5 000. Трактароў адпаведна 24 700 і 13 200 штук. Каляровых тэлевізараў у першым квартале 1993 года было выпушчана 174 600 штук, а за такі ж перыяд 1994 года -- 111 600 штук. Крыху вырас аб'ём вытворчасці халадзільнікаў і маразільнікаў -- 171100 у першым квартале 1993 года і 190 100 штук у першым квартале 1994 года.

Следам за пагаршэннем становішча ў сельскай гаспадарцы рэспублікі знізілася вытворчасць у харчовай прамысловасці (19,5 працэнта ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года).

*КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД*

### КАМУНІСТ ЦІХІНЯ ВЫЙШАЎ З ПАРТЫІ

На толькі што прайшоўшай сесіі Вярхоўнага Савета былі абраны члены Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. Яго старшыня будзе прызначаны толькі пасля прэзідэнцкіх выбараў. А пакуль на першым арганізацыйным пасяджэнні Канстытуцыйнага суда быў абраны намеснік старшыні.

Ім стаў 54-гадовы доктар юрыдычных навук, прафесар Валерый Ціхіня, у мінулым сакратар ЦК КПБ. В. Ціхіня паведаміў журналістам, што падаў заяву аб прыпыненні сваёй дзейнасці ў Народным руху Беларусі, у Партыі камуністаў, а таксама папрасіў вызваліць яго ад дэпутацкіх паўнамоцтваў.

*З УПРАВЫ БНФ*

### ПАПУЛІЗМ І ПУСТЫЯ АБЯЦАННІ

Управа Беларускага народнага фронта падпісанне пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі расцэньвае як грубае парушэнне нядаўна прынятай новай Канстытуцыі і заклікае Пракуратуру і Вярхоўны Савет даць ацэнку дзеянням В. Кебіча і Саўміна. Беларускі народ пастаўлены перад пагрозай страты сваёй уласнасці і дзяржаўнай незалежнасці.

Сапраўднымі матывамі дзеянняў урада В. Кебіча, лічыць БНФ, з'яўляецца імкненне адысці ад адказнасці за развал эканомікі краіны, за рост карупцыі і злачыннасці, збядненне народа. Для гэтага і робіцца спроба ліквідаваць суб'ект права -- Беларускую дзяржаву, якая можа прад'явіць ураду Кебіча справядлівы рахунак за эканамічны крызіс. Пры гэтым Старшыня Савета Міністраў імкнецца яшчэ забяспечыць сабе перамогу на прэзідэнцкіх выбарах, скарыстоўваючы для гэтага танны папулізм і незлічоныя абяцанні. "Ні адзін чыноўнік, вінаваты ў пагрозе незалежнасці і будучыні Беларусі, не павінен пазбегнуць справядлівага пакарання", -- адзначаецца ў паведамленні Управы БНФ.

*БЕЛАРУСЬ--ЛІТВА*

### ЧАРГА ПА ВІЗЫ

Консульская служба беларускага пасольства ў Літве выдае штодзённа каля тысячы віз. Але, нягледзячы на гэта, чарга жадаючых атрымаць візы не змяншаецца.

Як сказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч, праблема вырашылася б, калі б візы выдавалі 15 супрацоўнікаў замест цяперашніх сямі. Але для гэтага трэба значна павялічыць памяшканне консульскай службы. Разавая выязная віза ў Беларусь каштуе 5 долараў ЗША, шматразовая -- 10.

Яшчэ больш складаная сітуацыя ў літоўскага пасольства ў Мінску. Тут у консульскім аддзеле працуюць толькі чатыры чалавекі. Штодзённа за візамі звяртаюцца 600--700 чалавек.

Часовы паверааны ў справах Літвы ў Беларусі Альфонсас Аўгуліс гаворыць, што выдачу віз можна было б паскорыць, калі б улады Беларусі далі згоду на адкрыццё пунктаў выдачы віз у Лідзе, Астраўцы, Браславе і Ашмянах.

*КДБ РЭФАРМУЕЦЦА*

### АДПАВЯДАЦЬ ВЫМОГАМ ЧАСУ

"Асноўнымі напрамкамі дзейнасці КДБ Рэспублікі цяпер будзе разведка і контрразведка, забеспячэнне органаў улады і кіравання інфармацыяй, неабходнай для прыняцця дзяржаўных рашэнняў", -- заявіў старшыня КДБ Беларусі Генадзь Лавіцкі. КДБ прыме непасрэдны ўдзел у ажыццяўленні дзяржаўнай праграмы барацьбы са злачыннасцю, каардынуючы сваю дзейнасць з іншымі праваахоўнымі органамі, строга прытрымліваючыся рамак сваёй кампетэнцыі і дзеючага заканадаўства.

Цяпер зацвярджаюцца новыя структуры і штаты ведамства.

*КАНВЕРСІЯ*



Шырока вядомы малагабарытны прыёмнік "Селена", што выпускае вытворчае аб'яднанне "Гарызонт". За кароткі тэрмін дзякуючы высокім якасным характарыстыкам ён набыў папулярнасць у пакупнікоў. Але мала хто ведаў, што выраблясўся ён на навукова-вытворчым комплексе "Сігнал", які ўваходзіў у аб'яднанне.

Сёлета прадпрыемства, што накапіла значны навукова-тэхнічны патэнцыял, набыло гаспадарчую самастойнасць. Дзякуючы канверсіі, вытворчасць, нацэленая на выпуск мікрасхем для абароннай прамысловасці, расшырыла асартымент тавараў для насельніцтва. Прычым, немалаважна, што ўся "начынка" прыёмнікаў, у асноўным, выраблясцца на ўласным абсталяванні. Многія распрацоўкі яго, па прызнанню спецыялістаў, перасягаюць заходнія.

Цяпер НПК "Сігнал" пачаў выпуск чорна-белага тэлевізара з памерам экрана 23 сантыметры па дыяганалі. Гэта так званы "кухонны варыянт". Да канца года будзе выраблена 20 тысяч такіх прыёмнікаў. Яны знойдуць прымяненне не толькі ў кватэры, але і на прыродзе, у дарозе.

**НА ЗДЫМКУ:** кантралёр І. АНІСОВІЧ правярае новы малагабарытны тэлевізар "Гарызонт".

*АФІЦЫЙНА*

### ТАМОЖНЫЯ ПОШЛІНЫ АДМЕНЕНЫ

Як паведаміў 3 мая на пасяджэнні беларускага ўрада кіраўнік кабінета Вячаслаў Кебіч, першым віцэ-прэм'ерам Расіі Алегам Саскаўцом падпісана пастанова расійскага ўрада аб адмене таможных пошлін на расійскую прадукцыю, якая пастаўляецца на беларускі рынак.

Пастанова падпісана ў рамках Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі і будзе дзейнічаць да ўступлення гэтага дакумента ў сілу ў поўным аб'ёме.

*НА СУСВЕТНЫ РЫНАК*

### БАЛЬЗАМ "БРЭСЦКІ"

Яшчэ адзін арыгінальны рэцэпт распрацавалі спецыялісты Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода.

На гэты раз следам за гарэлкай "Беларусь", якая ўсім прыйшлася да смаку, на прылаўкі паступіць бальзам "Брэсцкі", шырокая вытворчасць якога будзе наладжана ўжо сёлета. У склад гэтага напітку ўваходзяць інгрэдыенты 30 траваў з Белавежскай пушчы. Чакаецца, што з'яўленне бальзаму на сусветным рынку прынясе заводу яшчэ адну Залатую Зорку якасці.

*ДЗЯРЖАЎНЫ ПАТЭНТ*

### ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ

У Акадэміі навук Дзяржаўным патэнтным ведамствам Беларусі ўручаны першы ў гісторыі краіны патэнт на вынаходніцтва. За стварэнне прылады для ачышчэння газу яго атрымалі мінчане А. Заватка, Г. Дзесюкевіч і Г. Фацееў. Уладальнікам пасведчання N 1 на таварны знак стаў Гомельскі падшыпнікавы завод.

*ПАЗІЦЫЯ ПІСЬМЕННІКАЎ*

*На XI з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі пасля бурнай і вострай дыскусіі быў прыняты дакумент, які мы лічым неабходным давесці да ведама беларусаў замежжа.*

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Сёння, у вырашальны для лёсу нашай дзяржавы час, мы, дэлегаты XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, выказваем глыбокую занепакоенасць намерам пэўных палітычных сіл уключыць Рэспубліку Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Першы крок да гэтага -- падпісанне ў Маскве Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Адначасна рыхтуецца ўнясенне кан'юнктурных паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая стала непарушным Законам для ўсіх.

Мы глыбока перакананы, што гэтыя супрацьзаконныя акты вядуць нашу рэспубліку да страты суверэнітэту, незалежнасці і ператварэння яе ў каланіяльны прыдатак Расійскай Федэрацыі для размяшчэння на тэрыторыі беларускай зямлі стратэгічнай зброі, якая нясе пагрозу ядзернага знішчэння беларускага народа, які ўжо зведаў жахі дзвюх войнаў за апошняе стагоддзе.

Мы ўпэўнены, што ў самым блізкім часе гэта прынясе ўсім пластам нашага грамадства незлічоныя сацыяльна-эканамічныя беды. Нашай гаспадаркай будзе кіраваць чужы капітал, у якога не будзе ніякай зацікаўленасці развіваць нацыянальную эканоміку, культуру, навуку, мову і літаратуру. Гэтак званая рублёвая зона нічога не дасць нашаму народу. Яна з'яўляецца нічым іншым, як палітычным манеўрам у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Падобныя ўчынкі ўладных структур прыніжаюць годнасць нашай краіны і яе народа, вядуць да здрады ідэям нацыянальнага адраджэння, адбіраюць будучыню ў нашых дзяцей і ўнукаў.

Які суверэнітэт і незалежнасць без свайго бюджэту, без сваёй фінансавай сістэмы, без уласнай валюты і Нацыянальнага банка?!

Цяперашнія ўладныя структуры павінны адкрыта і сумленна сказаць беларускаму народу, што яны робяць усё, каб ліквідаваць дзяржаўнасць і незалежнасць нашай радзімы. Хопіць падманаў і хітрых выкрутаў. Народ і гісторыя не даруюць здрады. Свабода і самастойнасць, якіх беларускі народ чакаў і за якія змагаўся больш пяці стагоддзяў, не змогуць быць задушаны і прададзены. Шчаслівы шанц адраджэння народнай гаспадаркі, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, навукі, мовы і літаратуры не павінен быць упушчаны!

Выказваем спадзяванне, што грамадзяне Расіі, і ў першую чаргу расійская інтэлігенцыя, зразумеюць нашу занепакоенасць, наш клопат і падтрымаюць нас -- і гэтым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.

Наперадзе -- выбары прэзідэнта. Не абманіцеся і тут, шаноўныя грамадзяне! На сваім вопыце вы ведаеце, як часта словы сённяшніх кіраўнікоў не супадаюць са справамі. Дык не верце неабгрунтаваным абяцанням! Не можа быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і той, хто не ведае нават мовы свайго народа!

Мы асуджаем здраду будаўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Мы асуджаем здраду ідэалам Беларускага Адраджэння!

Мы рашуча супраць уключэння ў склад Расійскай Федэрацыі нашай Бацькаўшчыны, нашай Дзяржавы, нашай роднай Беларусі.

**XI З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

*27 красавіка 1994 г.*

*ДЫЯЛОГІ З ЛІДЭРАМІ ПАРТЫЙ*

# І БУТЭЛЕЧКУ ПІВА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

**Пра тое, што існуе такая экзатычная партыя, як Партыя Аматараў Піва, чула даўно. Але здзівілася, калі даведалася, што яе стваральнікі зусім маладыя людзі. Больш дакладна, характарыстыка была нават такой: "Маладыя хлопцы з БНФ, якія здолелі падзарабіць грошай". Такім чынам, што ж уяўляе сабой Партыя Аматараў Піва? Гульню для няведнай моладзі? Своеасаблівы грамадскі эпатаж? Сур'ёзныя задумы пад несур'ёзнай шыльдай?**

**І вось чытаю "Статут Партыі Аматараў Піва". Яго прынёс з сабой у рэдакцыю Андрэй РАМАШЭЎСКІ, які адрэкамендаваўся пры знаёмстве кіруючым справамі партыі.**

-- Людзі ў нас на самай справе маладыя, -- пачаў Андрэй. -- Што тычыцца БНФ, так, мы ўваходзілі ў яго, але ў першапачатковым перыядзе стварэння фронта. Потым на некалькі год наогул адышлі ад палітыкі. І вярнуліся да яе толькі ў 93-м. Калі казаць пра занятак, сапраўды, займаліся бізнесам, што, дарэчы, дазволіла на ўласным вопыце пераканацца: ніякімі эканамічнымі рэформамі на Беларусі нават і не пахне. Вось і вырашылі: калі самі не будзем умешвацца ў палітыку, нічога не зрушыцца з мёртвай кропкі. Так зноў і сабраліся.

*-- Я так разумею, пачаткам партыі была проста кампанія добрых сяброў?*

-- Так, і кампанія сяброў, і адначасова адно з першых палітычных аб'яднанняў на Беларусі, гэта, калі не памыляюся, 88-мы год. Тады не стварылася яшчэ "Талака", а быў такі клуб "Сучаснік" Льва Крывіцкага і пры ім маладзёжная суполка "Мінская альтэрнатыва", існавалі таксама розныя самвыдатаўскія суполкі -- газеты "Беларуская трыбуна", "Навіны" -- першая рэдакцыя. Гэта, скажам так, першая хваля.

*-- Такім чынам Партыю Аматараў Піва нельга лічыць адгалінаваннем БНФ для работы з моладдзю?*

-- Не. Мы з БНФ у вельмі цесным кантакце. Але адгалінаваннем ніколі не будзем, бо мы самастойная арганізацыя. Хаця, безумоўна, сярод нас нямала сяброў БНФ.

*-- Назва Партыя Аматараў Піва -- сама па сабе вельмі прывабная, у палітыцы мае багатую гісторыю...*

-- Сапраўды так, калі казаць пра палітыку блізкай да нас Еўропы. Возьмем Чэхію, Польшчу, там некалькі год назад былі створаны такія партыі, прычым на выбарах яны сабралі нямала галасоў: польскія аматары піва, здаецца, пяць працэнтаў, чэшскія трохі меней. Назва наша дастаткова ўмоўная, але тым не менш пэўную колькасць прыхільнікаў, дзякуючы ёй, мы ўжо маем.

*-- Андрэй, слова "піва" ў назве партыі захоўваецца, як нейкі антураж?*

-- Можна сказаць і так. Але тым не менш піва мы п'ём, і болей, чым раней: бутэлечку кожны дзень.

*-- У перадвыбарнай гонцы за прэзідэнцкае крэсла ўзяла старт і Партыя Аматараў Піва. Ці не будзе перашкаджаць вам, як гэта ні парадаксальна, ваша маладосць, блізкасць да БНФ, беларуская мова, урэшце?*

-- Калі людзі захочуць, каб мы размаўлялі з імі па-расейску, калі ласка. У моўным пытанні мы адрозніваемся ад некаторых палітычных аб'яднанняў тым, што ў нас няма нейкіх жорсткіх абмежаванняў. Маладосць, лічу, таксама не загана.

*-- Колькі гадоў вашаму вылучэнцу ў кандыдаты ў прэзідэнты?*

-- Трыццаць восем.

*-- Вы спадзяецеся сабраць 100 тысяч подпісаў?*

-- Так. Хаця ініцыятыўная група ў нас, у параўнанні з іншымі, невялікая. Але вельмі, мы лічым, дзеяздольная. У ёй шмат студэнтаў, якія будуць хадзіць па хатах, што дазваляецца законам.

*-- А на якую сацыяльную групу выбаршчыкаў партыя разлічвае больш?*

-- Калі коратка, на палітычна пасіўнага выбаршчыка, які не стане галасаваць ні за камуністаў, ні за БНФ. Што тычыцца так званага "класавага" падзелу, мне здаецца, у нашым грамадстве ён вельмі размыты. У цяперашніх умовах можна быць інтэлігентам, заўтра апынуцца на вуліцы сярод беспрацоўных.

*-- Мітынгі партыя праводзіць свае ці далучаецца да іншых, хто ёй блізкі па духу?*

-- Ніводнага свайго мітынгу мы пакуль не правялі. Але далучаліся, напрыклад, да страйкама, фронта...

*-- Знакамітыя сасіскі?..*

-- Так, за кошт Партыі Аматараў Піва раздаваліся сасіскі падчас мітынгу перад Домам урада, якія чамусьці так любяць прыгадваць апошнім часам некаторыя дзеячы. Але, калі ў першы дзень мы ўбачылі колькі сабралася народу, то на другі ўжо і не пайшлі. Само па сабе тое мерапрыемства было добрае, але карысці ад яго амаль ніякай. Нам здаецца, мітынговы час наогул прайшоў. Ці праходзіць.

*-- У вас вельмі сур'ёзна аформлена дакументацыя, я бачу, існуе шмат папер. Не баіцеся ператварыцца ў звычайных бюракратаў?*

-- Не, не баімся. Паперамі ў нас спецыяльна займаюцца некалькі чалавек. Прычым, робяць гэта прафесійна. Ад якасці папер у нашым грамадстве часта залежаць адносіны да вас. Вось апошні прыклад. Прыносім у выбарчую камісію спіс ініцыятыўнай групы, раздрукаваны звычайным чынам. Там паглядзелі і незадаволены: літары маленечкія, не разгледзіш нічога. Тады перадрукоўваем спіс на прыгожым лазерным прынтэры, вялікімі літарамі. І... зусім іншая справа.

У нас ёсць некалькі ідэолагаў, некалькі спонсараў, некалькі прафесійных бюракратаў...

*-- Колькі чалавек налічвае ваша партыя?*

-- Каля трох соцень, пакуль няшмат. Структур у нас наогул няма.

*-- Звычайна партыі, нават такія зародкавыя, як у нас у Беларусі, у вачах публікі асацыіруюцца з вядомай многім асобай яе кіраўніка. Пра вас гэтага не скажаш.*

-- Я ўжо заўважаў, што на некалькі год мы "зніклі" з палітычнага жыцця. Але зараз будзем працаваць. Усё наперадзе.

*-- Вы, вашы сябры збіраецеся балаціравацца ў новы парламент?*

-- Не ведаю. Мусіць, не. Хутчэй, будзем падтрымліваць каго-небудзь. Мы сапраўды яшчэ маладыя людзі.

*-- Калі вы заняліся палітыкай, у вас павінна быць праграма. Якой бачыць Партыя Аматараў Піва Беларусь у ідэале?*

-- Так, у нас ёсць, але хутчэй не праграма, вялікіх праграм мы не пішам, а дэкларацыя. Адпаведна ёй, мы -- партыя ліберальнай арыентацыі. Нашы прыярытэты -- правы чалавека, прыватная ўласнасць, дзяржаўная незалежнасць. Мы -- партыя незалежніцкая, ад гэтага не адмаўляемся. Для нас галоўнае -- беларуская дзяржаўнасць, прычым, яна для нас стаіць вышэй за ўсё. Мы лічым: правы чалавека вышэй за правы нацыі.

*-- Ці не здарыцца так, што праз год вы нацешыцеся і разбяжыцеся па іншых справах?*

-- Загадваць наперад -- справа няўдзячная. Але нам вельмі хацелася б, каб, нарэшце, жыццё і на Беларусі складвалася так, калі не беларусы будуць бегчы куды-небудзь за лепшай доляй (што сёння маем), а да нас будуць прасіцца жыць і працаваць. Вось наша самая светлая мара. Дарэчы, тады можна і партыю распусціць.

*-- Што ж, дай Божа, нам усім дачакацца такой будучыні.*

**Галіна ЎЛІЦЁНАК.**

**ПРЫСВЕЧАНА 200-годдзю ПАЎСТАННЯ Тадэвуша КАСЦЮШКІ**





**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыта выстава "Паланез для касінераў", прысвечаная 200-м угодкам вызвольнага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: экспанаты экспазіцыі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# КАМПЕНСАЦЫЯ АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ

Кампенсацыйныя выплаты людзям, якія пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў у час другой сусветнай вайны, да 9 мая будуць пералічаны на іх рахункі ў бліжэйшыя па іх месцу жыхарства філіялы АКБ "Прыорбанк". Так вырашыла экспертная камісія Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне", першае пасяджэнне якой адбылося ў Мінску.

Камісія разгледзела 359 спраў грамадзян, што маюць права на кампенсацыю за страты, нанесеныя ім нацызмам, альбо як вязням канцлагераў, турмаў, гета, альбо як асобам, насільна вывезеным на прымусовыя работы на тэрыторыю Германіі і іншых дзяржаў, што знаходзіліся ў стане вайны з СССР ці акупіраваных фашыстамі. У лік ахвяр нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў уключаны і людзі, што ў час вайны былі дзецьмі ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама якія нарадзіліся ў няволі.

Многія грамадзяне пытаюцца, хто мае прыярытэтнае права на гэтыя выплаты. Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў фондзе "Узаемаразуменне і прымірэнне", у першую чаргу кампенсацыю атрымаюць інваліды і малалетнія вязні канцлагераў, турмаў, гета, ахвяры медыцынскіх эксперыментаў, а таксама асобы, якія па стану здароўя маюць патрэбу ў доглядзе. Для таго, каб атрымаць кампенсацыю, дастаткова прадставіць у фонд дакументы-арыгіналы, што пацвярджаюць факт знаходжання ў фашысцкай няволі.

Сродкі на выплаты кампенсацый ахвярам фашызму, што маюць гуманітарны характар, бяруцца з фінансавага ўкладу ўрада ФРГ, якія складаюць мільярд нямецкіх марак, для размеркавання іх паміж нацыянальнымі фондамі "Узаемаразуменне і прымірэнне" Расіі, Украіны і Беларусі.

ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 30-годдзю БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ

# "РАДЗІМЕ" НЕ БУДЗЕ СОРАМНА ПЕРАД СУДОМ ГІСТОРЫІ

У канцы красавіка адбылася вечарына, прысвечаная 30-годдзю з дня заснавання Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма"). На ўрачыстасць былі запрошаны дзеячы дзяржаўных і грамадскіх устаноў, прадстаўнікі навукі і культуры, прыехалі госці з Беласточчыны, з Масквы і Таліна.

З дакладам выступіў намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма" Уладзімір Навіцкі, і той, хто хоча даведацца, чым на працягу трох дзесяцігоддзяў займалася гэта грамадская арганізацыя, мусіць набыць N 15 (2365) газеты "Голас Радзімы", дзе змешчаны артыкул Сяргея Картэса "Мы -- беларусам, беларусы -- бацькаўшчыне". У гэты ўрачысты для супрацоўнікаў таварыства дзень ім было сказана многа шчырых і цёплых слоў. Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка ў сваім віншаванні адзначыў, што мінулыя 30 гадоў сведчаць пра тое, што не так усё проста пачыналася ў міжнародных кантактах Беларусі з іншымі краінамі, у сувязях радзімы з беларусамі, якія жылі і жывуць за яе межамі. На пэўным этапе таварыства "Радзіма" адыграла выключную ролю, будучы ў часы "халоднай вайны" і нават пазней, адзінай магчымай формай кантактаў з суайчыннікамі.

Цяпер, дзякуй Богу, існуе і "Радзіма", і "Бацькаўшчына", і Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Яны сведчаць, што існуюць розныя формы супрацоўніцтва, але ўсе гэтыя арганізацыі павінны быць разам. "Асабіста я, -- сказаў Пётр Краўчанка, -- буду падтрымліваць усе формы дзейнасці, калі яны будуць спрыяць пашырэнню кантактаў. Існуе спецыяльная ўрадавая праграма дапамогі беларусам у Польшчы, Літве, Латвіі і іншых краінах".





Алесь Баршчэўскі, вядомы паэт, ганаровы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і даўні сябра таварыства "Радзіма" сказаў у сваім віншаванні, што прагне найперш падзякаваць таварыству і ад імя беларускіх пенсіянераў у Польшчы, і ад імя беларускіх дзяцей, якія адпачывалі тут у санаторыі і ў піянерскіх лагерах, ад удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, што займаліся ў Мінску на курсах па запрашэнню "Радзімы". "А перадусім дзякуем за дапамогу ў будаўніцтве Беларускага музея ў Гайнаўцы, бо ў ім, ад фундаменту і да даху -- усюды ёсць уклад "Радзімы". Нас часта палохаюць, што вы маеце дрэнную ідэалогію, -- працягваў А. Баршчэўскі, звяртаючыся да юбіляраў, -- але мы 10 гадоў супрацоўнічаем з вамі і не адчулі на сабе вашага ідэалагічнага прэсінгу, а толькі культурную дапамогу".

Старшыня Беларускага камітэта "Дзеці Чарнобыля" Тамара Белаокая сказала, што таварыства "Радзіма" было адной з першых арганізацый, якая падтрымала іх матэрыяльна. Нашы суайчыннікі з-за мяжы прысылаюць лекі, вітаміны, абсталяванне, так неабходнае для клінікі радыяцыйнай медыцыны.

Адам Мальдзіс, дырэктар Скарынаўскага цэнтра, сказаў, што не мог не ўзяць слова, не мог не павіншаваць таварыства "Радзіма" з юбілеем. Друкаваны орган таварыства газету "Голас Радзімы" ён лічыць неафіцыйным органам і Скарынаўскага цэнтра. У газеце друкуецца шмат матэрыялаў Міжнароднай арганізацыі беларусістаў, многія яе члены атрымліваюць і чытаюць "Голас Радзімы". "Добра, што ёсць "Бацькаўшчына", добра, што ёсць "Радзіма", -- сказаў Адам Мальдзіс. -- Кожнай з іх хопіць працы. Але за тое, што ўжо зроблена, перад судом гісторыі "Радзіме" сорамна не будзе".

У сваім выступленні старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач сказала, што ў кожнай з арганізацый, якія працуюць дзеля ажыццяўлення сувязі зарубежных беларусаў з маці Радзімай, ёсць свае асаблівасці, хаця цяжкасці, з якімі сутыкаецца ў сваёй працы "Бацькаўшчына", мусіць агульныя. Вельмі дорага каштуе перасылка прэсы за мяжу, і без дапамогі дзяржавы тут ніяк немагчыма абысціся. Беларускія газеты, часопісы, кнігі неабходны нашым суайчыннікам, бо яны часам для іх адзіная крыніца інфармацыі, магчымасць адчуць, што Бацькаўшчына памятае пра іх. З болем гаварыла Ганна Сурмач і пра тое, што яны не маюць магчымасці дапамагчы беларусам з былых рэспублік СССР перасяліцца ў Беларусь, а такіх становіцца ўсё больш і больш.

Прадстаўнік Беларускай культуры ў Таліне Вольга Галавашкіна сказала, што ў сваім складаным жыцці ўдалечыні ад Беларусі яны атрымліваюць адзіную рэальную дапамогу ад "Радзімы", адзіная крыніца інфармацыі -- газета "Голас Радзімы".

За 30 гадоў існавання таварыства "Радзіма" набыло многа шчырых сяброў і прыхільнікаў у розных краінах свету, у святочны дзень многія з іх, арганізацыі і асобныя суайчыннікі, прыслалі тэлеграмы, пісьмы, паштоўкі.

"Камітэт і рэдакцыя газеты "Русский голос" сардэчна віншуюць таварыства "Радзіма" з юбілеем. Створаная 30 гадоў назад "Радзіма" была пуцяводнай зоркай для многіх суайчыннікаў за мяжой. Беларусы ўсяго свету на працягу многіх гадоў бачылі ў ёй маяк, што асвятляў ім шлях. "Радзіма" была надзейным мастом паміж роднай Беларуссю і замежжам, дзе жылі суайчыннікі-беларусы".

З Кішынёва ад Старшыні Беларускай грамады ў Рэспубліцы Малдова В. Дзяржыцкага была атрымана тэлефанаграма: "У жыцці нашай Беларускай грамады мы заўсёды мелі і маем ад вас шчырую брацкую падтрымку. Цікавую ўсебаковую інфармацыю аб сённяшніх і мінулых гадах нашай Бацькаўшчыны, яе выдатных дзеячах дае нам газета таварыства -- "Голас Радзімы".



Галоўнае праўленне ФРК і рэдакцыя газеты "Вестник" з падзякай успамінаюць цеплыню і клопат, з якімі сустракалі беларусаў на радзіме, наладжвалі сустрэчы са сваякамі, уладкоўвалі на лячэнне ў клінікі і санаторыі, а дзяцей на адпачынак у летнія лагеры, студэнтаў на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

"Дружба і ўзаемаразуменне -- гэта галоўнае, на чым будавала таварыства "Радзіма" свае адносіны ўсе гэтыя гады і з нашым таварыствам, і з многімі іншымі. Дык няхай гэта доўжыцца вечна", -- напісалі члены таварыства "Дружба" з Гаагі. Віншаванняў так многа, што ўсе і не працытуеш. Іх прыслала сям'я Феерман з Амстэрдама, Н. Міцюрына з Ротэрдама, Вольга і Дуня Клімовіч з ЗША, калектыў аўтараў Беларускай перадачы Эстонскага радыё, сакратар Грамадскай асацыяцыі "Гумбальт парк" Джун Мека з Чыкага, старшыня Выканкома Асацыяцыі "Родина" М. Панкоў з Масквы, Савет дырэктараў Карпарацыі Араў парк і іншыя.

Усе яны сведчаць пра тое, што работа таварыства "Радзіма" карысная і патрэбная тысячам беларусаў, раскіданым па свеце, якія імкнуцца захаваць сваю еднасць з роднай Беларуссю.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: міністр замежных спраў Пётр КРАЎЧАНКА (злева) віншуе з юбілеем першага намесніка старшыні праўлення таварыства "Радзіма" Мікалая ВАСІЛЁНКА; віншаванне ад Ганны СУРМАЧ, старшыні "Бацькаўшчыны"; выступаюць Алесь БАРШЧЭЎСКІ і Адам МАЛЬДЗІС (ніжні здымак); на юбілейнай вечарыне.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*Таварыства "Радзіма" выказвае сардэчную падзяку арганізацыям і асобным суайчыннікам з-за мяжы і ў Беларусі, якія прыслалі свае віншаванні або віталі таварыства асабіста з нагоды яго 30-гадовага юбілею, і спадзяецца на далейшае плённае супрацоўніцтва.*





9

## 1.2. Вайна за незалежнасць 1794 года

**ПРЫКЛАД ПОЛЬСКАГА КАРАЛЕЎСТВА І КАСЦЮШКА.** Другі падзел Рэчы Паспалітай выклікаў у перадавых колах яе грамадства вялікае незадавальненне. Для барацьбы супраць захопнікаў і за ўзнаўленне канстытуцыі 1791 года ўзнікла тайная арганізацыя з цэнтрам за мяжой. Яе філіі дзейнічалі.і на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Вялася падрыхтоўка да ўзброенага змагання.

Выступленне пачалося вясной 1794 года. Галоўным начальнікам над усімі ўзброенымі сіламі Рэчы Паспалітай быў абраны Тадэвуш Касцюшка, сын дробнага шляхціца з Берасцейшчыны (Сяхновічы, Кобрынскі павет), ваенны інжынер па адукацыі. Да гэтага ён паспеў пабываць за акіянам, дзе змагаўся за незалежнасць Злучаных Штатаў. Менавіта Касцюшка распрацаваў праект тыпавога форта для рэспубліканскай арміі, забяспечваў яе інжынернымі збудаваннямі пры абароне і наступленні ў вайне з Англіяй. У Злучаных Штатах Амерыкі наш зямляк даслужыўся да генерала, стаў ганаровым грамадзянінам гэтай краіны, атрымаў пажыццёвую пенсію і добры кавалак зямлі, але вярнуўся бараніць Айчыну. Польскія атрады пад яго кіраўніцтвам вынішчалі асобныя атрады рускага войска, захапілі Варшаву. Часо-

10

вы Варшаўскі ўрад абвясціў вайну Расіі і Прусіі.

**ЗМАГАРЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА.** На нашых і жамойцкіх землях барацьбу ўзначаліў Якуб Ясінскі, 33-гадовы інжынер-палкоўнік, кіраўнік патаемнай арганізацыі віленскіх патрыётаў, 23 красавіка 1794 года яны захапілі Вільню і, як і ў Варшаве, выразалі рускі гарнізон. Назаўтра створаны рэвалюцыйны суд прысудзіў гетмана Шымона Касакоўскага да пакарання смерцю. Гэта быў апошні гетман Вялікага Княства Літоўскага. Ён спадзяваўся ўратаваць край з дапамогай Расіі.

29-асабовы Часовы Віленскі ўрад (Найвышэйшая Літоўская Рада) на чале з Якубам Ясінскім звязваў гэтую надзею з рэфармаванай Польшчай і падпарадкоўваўся варшаўскаму кіраўніцтву. Віленскі правадыр арыентаваўся на федэратыўны саюз Вялікага Княства Літоўскага з Польскай Каронай, а таму прэтэндаваў на самастойнасць у дзеяннях. Ясінскі, як і Касцюшка, быў прыхільнікам рэспубліканскага праўлення і скасавання прыгону, але больш рашуча абапіраўся на падтрымку сялян. Ён пісаў да іх вершаваныя пракламацыі па-беларуску. У вялікай ступені дзякуючы намаганням Якуба Ясінскага, паўстанне ахапіла амаль усю вольную ад расійскіх захопнікаў частку Вялікага Княства Літоўскага. У вызваленчае войска ўліваліся атрады сялян і гараджан, татарскія палкі. Вялікай мужнасцю вызначаліся касінеры, ці ўзброеныя косамі сяляне. Яны змагаліся з надзеяй на вызваленне ад прыгону, якое ім абяцалі Касцюшка (Паланецкі універсал) і Ясінскі. Актыўна падтрымлівалі паўстанне уніяцкія святары.

Патрыёты змаглі перанесці ваенныя дзеянні

11

на беларускія землі, што знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі, і ледзь не захапілі Мінск. Член Віленскага ўрада, буйны землеўладальнік і кампазітар Міхал Клеафас Агінскі распрацаваў для Якуба Ясінскага план узброенага захопу ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, які ставіўся ў залежнасць ад вызвалення сялян. Ён жа ўзначальваў і чэрвеньскі рэйд паўстанцаў на Міншчыну, а ў жніўні -- марш праз Браслаўшчыну на Дынабург (цяпер Даўгаўпілс), дзе яго падтрымаў паўтысячны атрад з мясцовай шляхты і сялян на чале з генерал-маёрам К.Беліковічам. Трохтысячны атрад Стахвана Грабоўскага даходзіў да Магілёўшчыны. Усяго ў бітвах за незалежнасць удзельнічала каля 40 тысяч паўстанцаў.

Але рэвалюцыйная рашучасць паплечнікаў Ясінскага палохала рэакцыйную шляхту. Яна ігнаравала заклікі ўрада Вялікага Княства Літоўскага аб вызваленні сялян -- і тыя патроху адварочваліся ад барацьбітоў. Пэўны вынік мела расійская контрпрапаганда. Ад імя царскіх генералаў распаўсюджваліся чуткі аб надзяленні паслухмяных сялян землямі за кошт тых паноў, якія бралі ўдзел у вызваленчай вайне. Не было поўнага паразумення і з Варшаўскім урадам. Якуб Ясінскі так і не дамогся асабістага кіравання над усім войскам Вялікага Княства Літоўскага. Больш таго, Тадэвуш Касцюшка ўвогуле пазбавіў віленскага правадыра ўлады, а створаны ім рэспубліканскі ўрад замяніў на новы з дзеячаў памяркоўных і паслухмяных Варшаве. Усё гэта аслабляла патрыятычны запал мясцовай шляхты.

12

**АПОШНІЯ ДНІ ВЯЛІКАЙ ДЗЯРЖАВЫ.** Тым часам Расія ўслед за Прусіяй і Аўстрыяй накіравала супраць узброеных сіл Рэчы Паспалітай сваё лепшае войска на чале з Аляксандрам Суворавым. Пікі і косы не маглі спыніць гарматы. У верасні атрады Вялікага Княства Літоўскага цярпелі паражэнне і адступалі ў Польшчу. Патрыёты развітваліся з Бацькаўшчынай хто на гады, хто назаўсёды. З гэтай нагоды Міхал Агінскі ў сваім маёнтку Залессе, што на Смаргоншчыне, напісаў знакаміты паланез "Развітанне з Радзімай".

У рашаючай бітве пад Мацяевічамі, недалёка ад Варшавы, было разбіта і войска Тадэвуша Касцюшкі. Паранены генерал трапіў у палон і быў адвезены ў Петрапаўлаўскую крэпасць Пецярбурга. Абараняючы Варшаву, загінуў Якуб Ясінскі. Горад, заліты кроўю патрыётаў, у лістападзе 1794 года быў захоплены Суворавым. Падмогі з боку Францыі барацьбіты за волю не дачакаліся.

У пачатку 1795 года пераможцы падзялілі паміж сабой рэшту Рэчы Паспалітай. Расія атрымала заходнюю частку Вялікага Княства Літоўскага (у тым ліку Жамойцію) і землі Украіны да Заходняга Буга. Мяжа пралягла прыкладна па лініі Гродна -- Брэст. Беласточчына апынулася ў руках Прусіі. Рэч Паспалітая як дзяржава знікла з палітычнай карты Еўропы. Яе апошні кароль Станіслаў Панятоўскі пераехаў у Гродна, а адтуль у Пецярбург, дзе і памёр.

Перастала існаваць і Вялікае Княства Літоўскае. Амаль уся яго тэрыторыя, на якой, акрамя жамойцаў, пражывала каля 3 мільёнаў

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

13

нашых продкаў, увайшла ў склад Расійскай імперыі. За заходнімі землямі былога Княства замацавалася назва -- Літва, за ўсходнімі -- Беларусь. А ўсяму нашаму краю (натуральна, без Жамойціі) можна, значыць, надаць толькі ўмоўнае імя -- Літва-Беларусь. Так былая некалі магутная дзяржава стала правінцыяй чужынскай імперыі з неакрэсленым назовам...

**І ЎСЁ Ж ЧАМУ ТАКОЕ ЗДАРЫЛАСЯ!** Асноўная адказнасць за палітычны крах Вялікага Княства Літоўскага кладзецца на мясцовую шляхту. У складзе Рэчы Паспалітай яна страціла здольнасць да незалежнага дзяржаўнага існавання. Спачатку арыстакратыя чакала паратунку ад Польскай Кароны, потым ад рускай імперыі. Свядомых патрыётаў было няшмат. Небяспека з боку Расіі падштурхнула іх на рэвалюцыйныя пераўтварэнні, якія, аднак, былі заўчаснымі. Рэформы не знайшлі падтрымкі, бо ў краі, у адрозненне ад Францыі, яшчэ не склалася шматлікае трэцяе саслоўе, ці стан новых прадпрымальнікаў. Абнаўленне грамадскіх парадкаў было гвалтоўна перарвана царскай Расіяй.

І нарэшце рабілася спроба абараніць незалежнасць са зброяй у руках. Але ці ж узялася шляхта дружна за зброю, ці павяла за сабой сваіх сялян, як гэта было даўней? Калі ж прыгонны далучаўся да касінераў без згоды гаспадара, гэта лічылася крыміналам. Выратаваць Айчыну маглю толькі войска з вольных сялян, але шляхціцы не адважыліся на адмену прыгону. Вялікае Княства Літоўскае змагалася фактычна ў адзіночку. Гегеманізм варшаўскага

14

кіраўніцтва на чале з Касцюшкам перашкаджаў гуртаванню патрыятычных сіл шматэтнічнай і поліканфесійнай дзяржавы. У рэшце рэшт гэтыя сілы не змаглі ўстаяць перад націскам расійска-пруска-аўстрыйскіх захопнікаў. А адсюль -- і трагічны шлях заняволенага на стагоддзі беларускага народа.

## 2. СМАК ЦАРСКАЙ УЛАДЫ

Кацярыне II у рэшце рэшт удалося здзейсніць адвечную мару рускіх цароў і паставіць суседняе Вялікае Княства Літоўскае на калені, калі яно было ўжо аслабленым і бездапаможным. І то імператрыцы спатрэбілася для таго амаль чвэрць стагоддзя. ...Расія. Што яна для нас? Сляпая выпадковасць ці лёс? Шлях да выратавання ці да бессэнсоўных пакут?

### 2.1. Першыя крокі чужынцаЎ

**МЕСЦА ВАЕННАЙ СІЛЫ.** Царскае войска разлілося па ўсіх больш-менш значных паселішчах захопленага Княства. Але нельга сказаць, каб рускія жаўнеры чынілі на правах заваёўнікаў масавыя гвалты і здзекі з мясцовага насельніцтва. Царскі ўрад праводзіў палітыку супакаення новых падданых. Асабліва гэта тычылася насельнікаў усходняй часткі былога Вялікага Княства Літоўскага, далучанай да Расіі

15

ў першую чаргу. Ёй адводзілася роля прапагандысцкага ўзору для тых, хто яшчэ заставаўся ў складзе Рэчы Паспалітай.

**МІФ АБ УЗ'ЯДНАННІ.** Расійская імператрыца імкнулася абгрунтаваць свае права на захопленыя землі. І тут дарэчы аказаўся міф аб падпарадкаванні Польшчай гэтых быццам бы старажытнарускіх зямель у мінулым. На гэтай падставе Літва-Беларусь разам з Украінай і нават Жамойцяй аб'яўляліся ўз'яднанымі з Расіяй. Хоць яшчэ ў афіцыйных урадавых паперах 1777 года можна было сустрэць незамаскіраваны шчыры тэрмін -- "земли новоприобретённые", калі гаворка ішла пра Літву-Беларусь.

**ПАЧАТАК РУСІФІКАЦЫІ.** Кацярына II адмяніла на далучаных да Расіі тэрыторыях Літоўскі статут і ўвяла рускае заканадаўства, у адміністрацыйна-судовым апараце загадала ўжываць рускую мову, шмат мясцовага кіраўніцтва замяняла рускімі чыноўнікамі, адкрывала першыя рускія школы. Пецярбургская русіфікацыя замяніла былую варшаўскую паланізацыю. Гэта істотна стрымлівала нацыянальную кансалідацыю нашых продкаў. Яны не мелі нават агульнага саманазова. Па прыналежнасці да былога Вялікага Княства Літоўскага людзі называлі сябе ліцвінамі. І толькі ў канцы XIX стагоддзя тэрмін беларусы пашырыўся на ўсе абшары нашай этнічнай тэрыторыі. Мы ж будзем ужываць яго, бо аўтахтонныя жыхары Літвы--Беларусі і ёсць будучыя беларусы. Аднак вернемся да русіфікацыі. Хутка выявілася, што царскія законы былі застарэлымі, недасканалымі і не прыстасаванымі да мясцовага жыц-

16

ця. Руская адміністрацыя не ведала мясцовых традыцый і мовы. Расійская ж мова была тут яшчэ больш нязвыклай, чым польская. А таму ў судова-адміністрацыйнай практыцы ўзнікала шмат блытаніны і недарэчнасцяў. Каб супакоіць незадаволеную шляхту, чарговы расійскі імператар Павел І (1796--1801) узнавіў дзейнасць Статута Вялікага Княства Літоўскага. Ён прыпыніў таксама русіфікацыю, але не таму, што стаў лічыць беларусаў народам самастойным. Літва--Беларусь падалася яму краем польскім. Гэта скарысталі польскія патрыёты і распачалі ўзмоцненую паланізацыю беларускага насельніцтва (і найперш шляхты), якая працягвалася і пры Аляксандры І (1801--1825).

**АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПАДЗЕЛ.** Спадзяванні мясцовых магнатаў на ўзнаўленне Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі не спраўджваліся. Па расійскаму ўзору тэрыторыя Літвы--Беларусі дзялілася на губерні, правінцыі (пазней паветы) і валасці. Царскія картографы доўга кроілі нашыя землі і толькі ў 1801 годзе больш-менш канчаткова размяркавалі іх паміж Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губернямі. Яны ж, у сваю чаргу, аб'ядноўваліся ў два генерал-губернатарствы. Віленская, Гродзенская, Мінская -- у Літоўскае, а Віцебская, Магілёўская і, акрамя таго, Смаленская -- у Беларускае. Тым самым клаўся пачатак супрацьпастаўлення беларусаў заходніх і ўсходніх. У 1807 годзе французскі імператар Напалеон І адабраў у Прусіі Беластоцкую вобласць і перадаў яе Расіі за згоду далучыцца да кантынентальнай блакады Англіі.

# "ТАМУ ШТО БЕЛАРУСЬ МАЯ РАДЗІМА..."

**!Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Аўгуст Фаміч Манкевіч, відаць, багацейшы, меў маёнткі ў Быхаўскім і Чэрыкаўскім паветах. У 1863 годзе падазраваўся ў сувязях з паўстанцамі мясцовага атрада Анцыпы, знаходзіўся пад арыштам, праўда, у даволі лагодных умовах -- ва ўласнай кватэры ў Магілёве. Падчас вобыску ў яго маёнтку Закупленне (паблізу ад Чачэвічаў) знайшлі шмат замежных бесцэнзурных кніг, "вершы і гімны бунтоўнага зместу" (ні саміх твораў, ні іх спісаў няма). Беларускі пісьменнік-перакладчык Іван Восіпавіч Манкевіч мог быць нейкім бедным сваяком уладальнікаў Камарычаў і Закуплення.

Гісторык Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі Сяргей Цытовіч у сваім вядомым грунтоўным даследаванні "1863 год у Горы-Горках" (1929; яго варта было б сёння перавыдаць) называе яшчэ аднаго ўдзельніка паўстання 1863 года Манкевіча -- нават з ліку кіраўнікоў. Працытуем працу вучонага: "Папярэдняй падрыхтоўкай і арганізацыяй магілёўскіх паўстанцаў, якія далучыліся да паўстання ў Горках, ведалі: член Магілёўскага камітэта М. Аскерка (доктар, пасля расстраляны. -- **Г.К.**), сакратар Магілёўскай крымінальнай палаты Галіноўскі і Манкевіч. Апошні, паходзячы з Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, у 1861 годзе пачаў службу ў Вільні ў кнігарні Аргельбранта, а потым служыў у рэдакцыі "Виленского вестника". У пачатку паўстання 1863 года ён прыбыў у Магілёў, дзе 2 мая арыштаваны як агент Цэнтральнага Камітэта. У паследку Манкевіч на судзе адважна бараніў ідэі паўстання" (Запіскі Аддзелу гуманітаарных навук, Мн., 1929. Кн. 8. С. 265). Звесткі, як бачым, вельмі цікавыя. Вось толькі Цытовіч, на вялікі жаль, не называе імя гэтага Манкевіча. Спасылаецца ён на дакументы колішняга даваеннага Магілёўскага гістарычнага архіва, якія хутчэй за ўсё не захаваліся. Некаторыя дэталі -- служба ў кнігарні і рэдакцыі газеты Кіркора -- наводзілі на думку, што гэта якраз мог быць наш перакладчык.

Яшчэ больш упэўніўся я ў гэтым, звярнуўшыся ў тэматычны каталог мінскага архіва. Аказалася, архівісты зафіксавалі ў сваёй картатэцы ўдзельніка паўстання 1863 года Івана Іосіфавіча Манкевіча. Гэта прозвішча трапіла ў даведачную картатэку з вельмі цікавага дакумента -- спіса магілёўскіх палітычных вязняў перыяду паўстання (ф. 3255, спр. 2). Назва ў яго доўгая: "Список всем вообще политическим преступникам, доставленным из разных мест и содержащимся под арестом в казармах Могилевского батальона внутренней стражи, богоугодных заведениях и тюремном замке от 14 июня 1863 года". Спіс у свой час быў размножаны царскімі ўладамі друкарскім спосабам і разасланы ўсім "зацікаўленым установам", у першую чаргу шматлікім мясцовым следчым камісіям, якія вышуквалі паўстанцаў. Усяго ў ім 454 асобы. У канцы, пад N 419 і 424, значацца вязні турэмнага замка Іван Іосіфавіч Манкевіч і Юльян Аўгусцінавіч Галіноўскі -- трэба думаць, тыя самыя, пра якіх пісаў наш гісторык С. Цытовіч. Такім чынам, імя і імя па бацьку Манкевіча-перакладчыка і Манкевіча-паўстанца супадаюць. У спісе сказана, што ён дваранін Мінскай губерні, маёнтка не мае.

Справаводства Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні, якое не раз выручала ў біяграфічных пошуках, на гэты раз надзей не апраўдала. Я прагледзеў ажно шэсць спраў пра Манкевічаў герба "Ліс" і "Любіч", але Івана Восіпавіча (Іосіфавіча) з патрэбнымі тэрытарыяльна-храналагічнымі каардынатамі не знайшоў (відаць, не ўсе справы да нас дайшлі). Хаця пераканаўся, што прадстаўнікі разгалінаванага роду Манкевічаў у роўнай ступені жылі як у Мінскай, так і ў Магілёўскай губерні, у тым ліку ў Быхаўскім і Рагачоўскім паветах (на Рагачоўшчыне была нават цэлая шляхецкая аколіца Церцеж, населеная Манкевічамі). У адной справе мільгануў Восіп Васільевіч Манкевіч, які мог быць бацькам нашаму перакладчыку. Той Восіп Васільевіч быў родам з Рагачова (прынамсі там хрышчоны), дробны канцылярыст са значным жыццёвым вопытам (працаваў і на Украіне), у 1828 годзе пайшоў у адстаўку, часова жыў у маёнтку Хатоўня Быхаўскага павета, у 1831 годзе -- акурат у Старым Быхаве...

Нарэшце, у Вільні-Вільнюсе, у гістарычным архіве, трымаю ў руках саму ваенна-судовую справу ўдзельніка падзей 1863 года Івана Восіпавіча Манкевіча (ф. 1248, воп. 2, спр. 198). Вось што з яе можна даведацца.

Як вядома, узброенае выступленне на Магілёўшчыне пачалося на Юр'я, 24 красавіка, але яшчэ за некалькі дзён губернатар атрымаў звесткі, што ў маёнтку Ляхаўка магілёўскага павятовага маршалка шляхты Стахоўскага з'явіўся нейкі "агент Літоўска-Беларускага Цэнтральнага Камітэта", якога 20 красавіка (2 мая па новаму стылю) тут заарыштавалі і са знойдзенымі паперамі даставілі ў Магілёў.

Гэта і быў Манкевіч, як аказалася, зусім малады чалавек, які даў пра сябе наступныя звесткі: 18 гадоў, дваранін Рагачоўскага павета, бацькоў няма, сваякі пражываюць у Старым Быхаве (Віктар Аляксандравіч Корзун) і ў Стара-Быхаўскім павеце, у вёсцы Камарычы (тыя самыя Аляксандр і Канстанцін Манкевічы, на якіх мы "выйшлі" ўжо раней). Выхоўваўся ў Рагачоўскім дваранскім вучылішчы. У снежні 1861 года паехаў у Вільню, працаваў у кнігарні Маўрыкія Аргельбранта "и перешел в редакцию Виленского Вестника, где отчасти занимался литературою -- жил у А.К. Киркора". Пасля выбуху паўстання намерваўся ехаць у Пінскі павет, каб далучыцца да тамашніх мяцежнікаў, але не адважыўся, паехаў у Магілёў "с целью найти занятие, которое бы соответствовало моей программе в будущем -- наукам и литературе", звярнуўся да Стахоўскага, які абяцаў яму занятак пры сваёй бібліятэцы і канцылярыі. "Господин же Киркор обязал меня ездить в Могил. губ. именно потому, что здесь находятся мои родственники и что Белоруссия моя родина".

У справе ёсць пісьмо-пацвярджэнне Кіркора, што Манкевіч "в начале 1862 года поступил ко мне и состоял для занятий при редакции". Ёсць пасямейны спіс бацькі 1839 года. Гэта той самы адстаўны дробны чыноўнік Іосіф Васільевіч, якога мы "вылічылі" раней. Сям'я жыла тады, у 1839 годзе, у мястэчку Новы Быхаў. Бацьку было ў той час 43 гады, маці Элеанора Іванаўна Корзун на дваццаць гадоў маладзейшая. Вось у такой сям'і і з'явіўся на свет наш будучы літаратар -- было гэта прыблізна каля 1845 года, магчыма, у гэтым жа Новым Быхаве.

У запісной кніжцы Манкевіча і на паасобных узятых у яго лістах паперы -- розныя накіды на рускай і польскай мовах, хутчэй за ўсё для "Виленского вестника", спісы кніг і перыядычных выданняў, кулінарскія рэцэпты, выпіскі з слыннага тагачаснага французскага гісторыка і палітыка Гізо, палымяная адозва Гарыбальдзі да народа Абедзвюх Сіцылій і нават асобныя графічныя замалёўкі алоўкам (быў у яго, відаць, і нейкі мастакоўскі дар). На адной, прыгледзеўшыся, здаецца, магчыма пазнаць партрэтныя рысы Кіркора.

Прагладаючы паперы, я шукаў якога-небудзь тэксту па-беларуску. І такі тэкст знайшоўся. Вось нейкі накід лацінкай:

**Анодысь поп наш казаў, што настала канчэнне света, што антыхрыст нарадзівся якісь Галібарды, вельмі страшэнны, -- з хвастом і рагамі... Казав што ён есць народ, сто чалавек адразу, -- а часам по двесця і болей. Нашы бабы пауцікалі ў лес... бо то кажуць, што антыхрыст ужо блізко!.. Найболій баітца поп -- бо тэй Галібарды папоў не любя. Ест за што !.. Колісь то ён толькі папамі кармівся а народу не трогав -- мы б (неразборлівае слова) -- а то бач і народ тлумя...**

**Кажуць, што гэты антыхрыст дабіраетца да самага цара... Губернатар піша -- штоб мы ваявалі... а тым часам і малы і стары до лесу а ні на вайну сабіраютца. Дый трасца яго ведае чы не брэша толькі поп. Напішыця нам паночкі праўду (адно-два словы выкрэслены), бо народ пагіне не столькі ад антыхрыста, скольки ад набору... а то мы падурэім -- тэй брэша, тэй брэша, а хто ж на паследак праўду скажа!..**

Тут накід, на жаль, абрываецца. Як бачым, пачаўшыся з казачных інтанацый, тэкст гэты пераклікаецца потым са шмат якімі іншымі беларускімі адозвамі таго часу, нават нейкім чынам з "Мужыцкай праўдай", якая аддавала вялікую ўвагу пытанню рэкруцкага набору (як вядома, з абвешчанай царскімі ўладамі бранкі-набору пачалося паўстанне ў Польшчы), абяцала казаць народу шчырую праўду.

Галоўнае ж -- мы пераканаліся -- перад намі сапраўды беларускі пісьменнік са сваёй арганічнай мовай, творчымі планамі, жыццёвай "праграмай". Ён быў цікавы Кіркору як зямляк (абодва з Магілёўшчыны) і як літаратар, прадстаўнік нешматлікага тады беларускага Парнаса.

На радзіму, як высветлілася, Манкевіч прыехаў у сакавіку 1863 года ("в четверг на вербной неделе минувшего великого поста"). У яго былі з сабой адрасы Ф. Чудоўскага і І. Цехановецкага, якія даў яму Кіркор. Абодва яны вядомыя тагачасныя культурныя дзеячы Магілёўшчыны, звязаныя з рэдакцыяй "Виленского вестника" (Чудоўскі да таго ж прыяцель Дуніна-Марцінкевіча), і абодва прычыніліся да падзей 1863 года, і Кіркору давялося даваць новыя тлумачэнні: "Пом (ещика) Игн. Цехановецкого я знал очень мало. Посещая Вильно, он был у меня раза два не больше. Чудовского я знал, когда он был здесь лет 20 тому воспитанником института..."

Вось такія адкрыліся дэталі. Перад намі бедны таленавіты юнак, які марыў пра літаратуру, які вельмі рана развіўся і абудзіўся да творчасці. Выходзіць, напрыклад, свой пераклад басні Крылова ён зрабіў у пятнаццацігадовым узросце і тады ж са сваёй правінцыі адважыўся паслаць яго ў Літфонд у Пецярбург. Потым на сваю рызыку едзе ў Вільню, уладкоўваецца ў вядомую кнігарню Аргельбранда, працуе ў рэдакцыі свайго земляка Кіркора, які блізка стаяў да ўсіх тагачасных беларускіх літаратараў. (Тыповы шлях разначынца ў літаратуру: прыблізна так ішоў пазней і Янка Купала, малады марай якога было ўладкавацца ў якую бібліятэку. Ды і ў ранняй біяграфіі Вацлава Ластоўскага была праца ў студэнцкай бібліятэцы).

Усе гэтыя планы былі перакрэслены паўстаннем. Важнай птушкай у палітычным сэнсе -- "агентам Літоўска-Беларускага ЦК" -- наш Манкевіч можа і не быў, але сімпатый да паўстанцаў не хаваў. Вось жа чамусьці расказаў пра свой намер далучыцца да пінскіх паўстанцаў (можа ўсё ж замятаў іншыя сляды?..) А 11 ліпеня 1863 года ў справе з'явіўся такі неардынарны запіс: камісія "убедилась, что этот молодой человек, при непобедимом упортстве в показаниях истины, до того проникнут мятежническими замыслами, что по собственному его объявлению в присутствии комиссии, не намерен от них отречься даже и на будущее время". Хлопец зазнаў у сувязі з гэтай заявай нямала непрыемнасцей, быў ізаляваны ў камеры-адзіночцы.

Ваенны суд у Магілёве асудзіў яго на катаргу. Палявы аўдытарыят у Вільні ў сакавіку 1864 года ўсё ж змякчыў кару -- саслаць на пасяленне ў менш аддаленыя месцы Сібіры.

Апошні след Манкевіча: у 1875 годзе ён звяртаўся да магілёўскага губернатара (адкуль -- невядома) з просьбай выслаць асабістыя дакументы, узятыя ў яго пры арышце.

Словам, ужо цяпер, бадай, можна сказаць, што пералік беларускіх літаратараў -- удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага -- папоўніўся новым імем -- Іван Манкевіч.

Нагадаем яшчэ раз гэты важны для гісторыі спіс з неабходнай агаворкай пра розную ступень удзелу або далучанасці да паўстання: найперш сам Каліноўскі, далей Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Вуль, Багушэвіч, Ражанскі, Каратынскі, Тапчэўскі, Абуховіч -- ці не ўвесь наш тагачасны Парнас. І вось нарэшце -- Манкевіч.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ:** **фотакопія старонкі з архіва Літфонду, дзе размова ідзе пра Манкевіча.**

1) Письмо къ А.Д. Галахову отъ Ивана Осиповича Манкевича (въ Старомъ Быхове, Могилевской губернии) съ приложениемъ перевода басни Крылова "Демьянова уха" на белорусское наречие. Г. Манкевичъ проситъ выслать ему 25 рублей на напечатание этого перевода.

2) Отказать на основании того, что средства Общества не дозволяютъ ему приступить къ изданию сочинений.

# XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ

Прайшоў XI з'езд пісьменнікаў Беларусі, які ўступным словам адкрыў народны паэт Максім Танк, назваўшы з'езд гістарычным, бо ўпершыню ён сабраўся ў свабоднай і суверэннай нашай дзяржаве. У прывітанні з'езду Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч паабяцаў, што ўрад прыме неабходныя меры, каб палепшыць становішча пісьменнікаў, знайсці сродкі для фінансавання пісьменніцкіх арганізацый, дзяржаўных выдавецтваў, павышэнне ганарарных ставак. Сам В. Кебіч на з'езд не прыйшоў, і пісьменнікі не змаглі выказаць яму свой неспакой, падзяліцца праблемамі, якіх накапілася шмат. Аднак прыйшоў лідэр БНФ З. Пазьняк, які па просьбе з'езда узяў слова і падкрэсліў, што заўсёды ў цяжкія часы на інтэлігенцыю кладзецца місія духоўнага выратавання грамадства.

Як не здрадзіць свайму таленту і абавязку цяпер, калі настае іншая, грашовая няволя, час павальнай камерцыялізацыі мастацтва? Як аўтарытэтна і годна сказаць свету пра Беларусь, калі сама яна ледзь трымаецца роднага слова? Як аддаць належнае і старэйшаму, і маладзейшаму літаратурнаму пакаленню, калі папера становіцца стратэгічным таварам? Усю шырыню гэтых праблем закранаді, выступаючы ў дыскусіі, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Алег Лойка, Генрых Далідовіч, Данута Бічэль-Загнетава, Вячаслаў Адамчык, Галіна Каржанеўская, Уладзімір Дамашэвіч, Віктар Карамазаў... Замежныя ўдзельнікі з'езда, і ў прыватнасці Алесь Барскі з Польшчы, падкрэслівалі наспелую неабходнасць увогуле перагледзець геаграфічна-абмежаваны змест самога паняцця "беларуская літаратура", уключыўшы сюды і сусветную "эміграцыйную плынь".

Сёлета Саюз пісьменнікаў адзначае сваё 60-годдзе, таму было важна вызначыць, наколькі гэтая немаладая структура адпавядае новым умовам літаратурнай дзейнасці. Пасля абмеркавання літаратары пакінулі Саюз як магчымасць "цэхавай прыналежнасці", духоўнай (і матэрыяльнай) падтрымкі. Кіраўніцтва саюзам пісьменнікі зноў даверылі Васілю Зуёнку.

**Д.Ч.**



Незвычайная для тэатра музычнай камедыі прэм'ера адбылася на яго сцэне. Тут ажыццёўлена пастаноўка аднаактовага балета Міхаіла Фокіна "Шапеніяна". Вялікі рускі харэограф зрабіў твор, што стаў сусветным харэаграфічным шэдэўрам і з'яўляецца абавязковым у рэпертуары ўсіх музычных тэатраў свету. Балет -- адзін з самых складаных для выканаўцаў, асабліва ў стылістычных адносінах. М. Фокін паставіў яго для вялікай балерыны Ганны Паўлавай.

І тое, што такі спектакль створаны маладой балетнай трупай "Мінск-балет" тэатра музычнай камедыі, гаворыць аб высокім творчым патэнцыяле артыстаў. Ажыццявіла пастаноўку "Шапеніяны" ў Мінску балетмайстар, народная артыстка Расіі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Любоў Кунакова, дырыжор спектакля Вячаслаў Чарнуха, мастак Уладзімір Жданаў.

**НА ЗДЫМКУ:** сцэна з балета.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

# БЫЦЦЁ ПАД ЗНАКАМ БЯДЫ

## ЭСЭ (СПРОБА ЭЗАТЭРЫЧНАГА ПРАЧЫТАННЯ ПРОЗЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА)*

*Як ад пакут астыне прах,*
*Душа нятленна-маладая,*
*Пра іншы марачы абсяг,*
*Свой склеп пануры пакідае.*
*Ад цела вольны дух пасля*
*Сягне высока і, магчыма,*
*З нябесных сфер*
*глядзіць здаля*
*На ўсё разумнымі вачыма.*

**(З Дж.БАЙРАНА. Пераклад Р.БАРАДУЛІНА).**

***

**(УСТУПНАЯ РЭМАРКА)**

У гісторыі літаратуры даўно заўважана такая своеасаблівасць: чым далей адыходзіць час напісання твора, тым большыя з'яўляюцца магчымасці для яго адэкватнага прачытання і "адшыфроўкі". Кантэкст прачытання літаратуры ўвогуле пашыраецца і ўскладняецца ў часе, уключаючы ў сябе ўсё новыя духоўныя веды і паняцці, хоць сам твор тым часам застаецца ўсё тым жа, візуальна нязменным, якім быў на момант першай публікацыі. Апублікаваныя творы ўяўляюць сабой тую ж скульптуру, што застыла нязменнай навечна. Але, мабыць, толькі літаратурныя творы валодаюць магічнай уласцівасцю мяняцца ў часе духоўна, метафізічна. У адрозненне ад гуку і фарбы слова набывае сваім навечным месцам жыхарства панадчасавую метафізічную прастору Духу, у якой інтэнцыя верша, эсэ, рамана і г.д. можа ўзрастаць да бясконцасці -- у залежнасці ад таго, наколькі адухоўлена было тое Слова, наколькі яно было набліжана да вечнасці ад пачатку. Менавіта такое Слова здольна выклікаць з цягам часу ў чытача ўсё больш духоўна-насычаныя, "горнія" асацыяцыі, сукупнасць якіх і стварае ўяўленне пра с э н с літаратурнага твора.

Каштоўнасць літаратурнага твора і вызначаецца яго здольнасцю выклікаць усё больш глыбокае яго прачытанне, спрыяць трансфармацыі эмпірычнай абалонкі сюжэта (напрыклад, гэтак званай фактуры прозы) -- да сферы ідэй, сувязь з якімі і ёсць крытэрый каштоўнаснага вымярэння літаратуры. Бо любы іншы крытэрый -- нацыянальны, сацыялагічны, партыйна-ідэалагічны дый гуманістычны таксама -- зводзіць функцыю літаратуры толькі да слугавання -- той жа "нацыянальнай ідэі", "сацыялістычнаму будаўніцтву", "усталяванню дабра на зямлі" і інш. **ДУХОЎНАЕ** вымярэнне слова ў такіх выпадках апрыёрна вынесена як бы па-за поле зроку літаратуразнаўства.

Але тым і загадкавы свет літаратуры, што з цягам часу ён сам, іманентна пазбаўляецца ад накінутых "кантэкстуальных" крытэрыяў і схаластычных "значэнняў", службы. Ён сам расстаўляе ўсё па сваіх месцах, пакідаючы "класавасць, партыйнасць і народнасць", "нацыянальныя формы і сацыялістычны змест" мінуламу, гісторыі літаратуры і вызваляючы прастору літаратурнай самасвядомасці (якой і ёсць, уласна, крытыка як чытанне з мэтай поўнага асэнсавання твора) адно толькі для эстэтычнага сузірання, магічнай, ніколі не вытлумачальнай па прыродзе гульні асацыяцый, у якіх герой, сюжэт, матыў і г.д. лучацца са сферай агульналюдскай духоўнасці, і толькі ў кантэксце якой і набываюць "значэнні".

Калі пройдзе сто год і новыя пакаленні чытачоў не будуць "па ўласным вопыце" ведаць, што такое Вялікая Айчынная вайна на Беларусі, партызанка, паліцаі, калектывізацыя, рэпрэсіі, камуна і падобнае, -- яны будуць шукаць у беларускай літаратуры гэтага перыяду аднаго толькі -- здабыткаў беларускай духоўнасці, яе праўдзівых высілкаў, зафіксаваных у слоўных формах. І -- прымерваць наш вопыт да сябе, да сваёй, і х н я й, будучай духоўнасці і светапачування. Пакаленні, кажучы ўзвышаным стылем, перамаўляюцца на мове духу, а не паводле "значэнняў" і "праўдападобнасці". Такім чынам, беларус канца XXI стагоддзя, самотна шукаючы ў знакавай прасторы свету адбітку беларускага досведу, замацавання формул нацыянальнай псіхалогіі і нацыянальнага бытавання -- якія маглі б надаць гэтаму "беларусу будучыні" сэнс яго існавання на зямлі як такому, -- раскрывае том Васіля Быкава, аповесць 1982 года "Знак бяды"...

***

...Той чытач будучыні, азнаёмлены з папярэднімі -- ваеннымі і "партызанскімі" -- аповесцямі Васіля Быкава, адкрые ў "Знаку бяды" Быкава зусім іншага -- Быкава не ваяра і не змагара -- Быкава -- сузіральніка быцця і журботнага філосафа, што бязмежна любіць свой край і свой маўклівы, ціхмяны народ. Магчыма, справа тут ва ўзросце Мастака, што пачаў быў падбірацца да шасцідзесяцігадовай вяхі; магчыма -- і гэта больш верагодна -- Мастак самахоць прыйшоў да тае кропкі светаўспрымання, ад якое бачацца зусім іншыя, чым раней, даляглядзы, усведамляюцца зусім інакшыя, чым дагэтуль, каштоўнасці. Адзіночны бой у ваеннай тэме скончаны; адгрымела, адваявала балючая памяць -- і адразу, непазбежна душа Мастака засамотнела па іншым, па новым, па больш аддаленым і больш глыбокім плане быцця -- пачуцці бяссмерця, на ўзаемаадносінах з якім адно і правяраецца сапраўдная існасць мастака. Дух мастака сам з сябе перакідвае масток з аднае асягнутае сферы да другой -- новае, больш "горняе" --і -- "глядзіць здаля на ўсё разумнымі вачыма".

Каб абмежаваць ужыванне надалей "пабочнай" тэрміналогіі, коратка скажам, што тут маецца на ўвазе г.зв. ступень ініцыіраванасці ("пасвечанасці") мастака ў "горнія" сферы, калі праз мастакоўскія творы -- зазвычай бессвядома для самога іх стваральніка -- прамаўляюцца "вечныя" тэмы і вобразы, сутнасныя ідэі чалавечага досведу, паводле якіх ладкуецца і гарманізуецца агульналюдскае быццё. Іншымі словамі, калі творчасць пісьменніка сваім духоўным кантэкстам, сваім глыбінным "падразумяваннем" сягае касмічнай вышыні, несучы ў свет не выпадковыя і не спарадычныя, а пакрыёмыя, сутнасныя болі і пакуты роднай зямлі, родных людзей; назаўсёды пераадольваючы межы тутэйшасці, знаходзячыся ў якіх толькі народны боль нельга "адгадаць", спасцігнуць дакладна.

У "Знаку бяды" мастак-змагар мяняе сваю звыклую постась. Не з акопа, не ад імя героя-ваяра чуцён яго голас -- як быццам "з Неба", зверху ліецца лагодны, элегічны голас мастака--ўжо--сузіральніка, што цешыцца гэтымі дваімі людзьмі, адзінымі насельнікамі беларускага хутара дзесь на Паазер'і, -- Петраком і Сцепанідай. Аўтар-апавядальнік быццам "завіс" над хутарам, заняў "нябесную", зверхнюю пазіцыю над гэтым улюбёным лапікам зямлі і чалавечым жытлом на ёй, -- і пільна, любасна і разважліва назірае за жыццём "знізу", на Яхімоўшчыне і ў яе ваколіцы, робячы адначасна помныя экскурсы ў недалёкае яшчэ даваеннае мінулае, у гісторыю гэтай мясцовай чалавечай Галгофы...

Бадай, самога пазначэння гэтай зямлі запаветным хрысціянскім сімвалам -- Галгофа -- было б дастаткова, каб здолець выказаць сутнаснае мастакоўскае разуменне гэтай зямлі. Без падрабязнай мастацкай расшыфроўкі, дэталізацыі сімвала пакуты -- а ім і ёсць Галгофа, працяглых экскурсаў у мінуўшчыну краю. Гэта і не патрэбна, калі знойдзены, дакладна адчуты галоўны сімвал краю -- сімвал людской долі-быцця ў ім.Сімвал, дакладна знойдзены, сам па сабе ёсць плёнам мастацтва менавіта як вынік пошуку дакладнага сімвала-знака; ён ёсць сам па сабе "твор у творы", самадастатковым мастацкім здабыткам. Менавіта гэта акалічнасць і дазваляе вызначыць манеру, у якой напісана аповесць, як прытча-парабалічную, калі "сэнс" сюжэта вынікае з умоўнасці і шматзначнасці мастацкіх дэталяў, а самі дэталі -- складнікі знешне звычайнай рэалістычнай аповесці -- павінны прачытвацца з сімвалісцкім падтэкстам, ад якога ніткі спасціжэння твора сягаюць шмат і шмат далей, у нетры беларускага "быцця ўвогуле" і яго анталогіі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быццё ў "Знаку бяды" наша, беларускае. Быццё, занесенае ў XX стагоддзе, у вялікую жорсткую вайну, што суцэльна захлынула тутэйшую быццёвую прастору, звяла магчымасці тутэйшага быцця на ніяк. (Ёсць там, у глыбіні аповесці, абмоўка ад імя Сцепаніды: "Чула яна: магчымасці яе людскога жыцця ўсё вузелі-змяншаліся...").

Людзі -- і Час. Бясконцая дыхатамія быцця і бясконцы верад спосабаў яе развязкі. Заўсёды ёсць пераможца і пераможаны. Пажадана, каб перамог Чалавек -- Час; Час чалавека не перамагае -- поміць, крышыць, пляжыць, "касуе" Чалавека як такога. І застаецца толькі адзін шанец -- застацца Чалавекам, нескароным Часу, Чалавекам -- **НАД** Часам.

Класічны прыклад такога чалавека ў беларускай савецкай літаратуры -- быкаўскі Пятрок са "Знака бяды". Ад пачатку перад намі чалавек, які бясконца адасоблены не тое што ад навакольнага жыцця -- ад самое вайны. І гэта ў час, калі трэба брацца за зброю, ладзіць супраціўны ворагу чын... Але для **духоўнага** стану гэтага чалавека нішто вакольнае ўжо не валодае істотным сэнсам: усё істотнае ўжо адбылося ў яго душы і адтуль кіруе рэштаю яго жыцця фізічнага. "...Ні да якой работы ў яго не ляжала душа, галава была занята зусім іншым клопатам, Пятрок нудзіўся, бясконца дыміў самасейкай і то сядзеў на ўслончыку пры парозе ў сенцах, то няўцямна сноўдаў, як хворы, ля хаты. **Увага яго, аднак, ні на чым не спынялася** (тут і далей курсіў мой. -- **Ю.З.**), усё навакол было звыклае і даўно знаёмае. Ды і дзіва што: тут ім пражыта дваццаць гадоў жыцця -- нялёгкага, у працы, нястачы і клопатах, але іншага, мабыць, не будзе..."

**Юрась ЗАЛОСКА.**

**(Заканчэнне будзе).**

* Прапаную чытачам эсэ -- частку літаратурна-крытычнай работы па творчасці Васіля Быкава, што неўзабаве выйдзе ў часопісе "Полымя". -- Аўтар.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | лі-тар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**Нагадваем нашым чытачам, што ў прадпрыемствах "Саюздруку" і паштовых аддзяленнях ідзе падпіска на "Голас Радзімы" на трэці квартал 1994 года. Спяшайцеся! Падпіска доўжыцца з 5-га мая па 15-е чэрвеня.**

# СООБЩЕНИЕ

**О ПРОВЕДЕНИИ ОТКРЫТОЙ ПОДПИСКИ НА АКЦИИ СПЕЦИАЛИЗИРОВАННОГО ИНВЕСТИЦИОННОГО ФОНДА, АККУМУЛИРУЮЩЕЙ ИМЕННЫЕ ПРИВАТИЗАЦИОННЫЕ ЧЕКИ "ИМУЩЕСТВО"**

## "НЕДВИЖИМОСТЬ"

**В г. Минске по адресу: проспект Ф. Скорины, 19, проводится открытая подписка на акции специализированного инвестиционного фонда "НЕДВИЖИМОСТЬ". Учредителями Фонда выступили: АКБ "ДУКАТ", г. Минск, ПКФ "ВАПОР", г. Минск, ПКП ООО "ОЗОН-1", г. Минск, СП "ЭКСПОЛ", г. Минск, СП "ГРОДСОУП", г. Гродно, фирма "ТОРНЕСС", г. Минск, САО "СКИП", г. Минск.**

Фонд "НЕДВИЖИМОСТЬ" создается в целях формирования благоприятных условий для инвестирования физическими и юридическими лицами именных приватизационных чеков и денежных средств в ценные бумаги.

**С целью формирования уставного фонда в размере 50 000 000 рублей, объявляется открытая подписка на 2 000 простых именных акций номинальной стоимостью 25 000 рублей.**

Открытая подписка на акции проводится в течение 30 дней с момента опубликования настоящего Сообщения. Договоры о подписке заключаются учредителями с подписчиками в соответствии с действующим законодательством ежедневно (кроме субботы и воскресенья) с 10.00 до 13.00. При этом подписка может быть прекращена досрочно при условии полной оплаты объявленного уставного фонда. В случае недостижения подпиской размера объявленного уставного фонда, его фактическая величина утверждается учредительной конференцией, которая состоится через 10 дней после окончания подписки.

Учредители приобретают 1100 простых именных акций первого выпуска и имеют право первой очереди при подписке на акции дополнительных выпусков.

*Собранные по подписке средства аккумулируются на временном расчетном счете 10467983 в АКБ "ДУКАТ".*

Учредители обеспечивают сохранность этих средств до регистрации Фонда, после чего они будут направлены на инвестиции в ценные бумаги и создание необходимых организационных и материально-технических условий эффективной деятельности.

В подписке на акции может быть отказано в случае досрочного прекращения подписки, нарушения подписчиком договора о подписке, непредоставления документов об источниках средств, инвестируемых в акции Фонда.

В случае отказа от выпуска акций или признания подписки несостоявшейся, собранные средства возвращаются подписчикам в течение 10 дней.

# МЫ СПЯВАЛІ Ў ІТАЛІІ

Харавая капэла Акадэміі навук Беларусі, якой кіруе старшы выкладчык кафедры харавога дырыжыравання Беларускай музычнай акадэміі Т. Слабодчыкава, падтрымлівае творчыя сувязі з харавымі калектывамі ў многіх краінах. Мы выязджалі ў гастрольныя паездкі на Украіну, у Малдавію, Эстонію, Польшчу, Германію. І вось наша харавая капэла, перапоўненая свежымі, яркімі ўражаннямі, толькі што вярнулася з Італіі, дзе мы прымалі ўдзел у Міжнародным фестывалі самадзейных харавых калектываў, і нават заваявалі "Сярэбраны дыплом".

З Мінска мы выехалі аўтобусам і ехалі цераз многія еўрапейскія краіны. Вечарам праз два дні мы ўжо былі ў Італіі, у невялікім гарадку Рыва дэль Гарда, размешчаным на беразе прыгожага возера сярод горных Альпаў. Сюды на міжнародны фестываль прыехала больш ста харавых калектываў з 22 краін.

27 сакавіка ў Вербную нядзелю па просьбе настаяцеля мясцовага храма пасля яго месы наша капэла дала 30-мінутны канцэрт духоўнага песнапення. Прымалі нас гарачымі апладысментамі. Гэта быў наш першы канцэрт у Італіі.



Горныя Альпы, прыгожае возера, мяккі і здаровы клімат прыцягваюць сюды турыстаў з краін Заходняй Еўропы, таму гэтыя мясціны вядомыя як курорты сусветнага значэння. Тут жа праводзяцца і міжнародныя фестывалі. Галоўнае ж, што засталося ў памяці, -- гэта вялікі цуд зносін людзей, у выніку якіх узнікае давер, добразычлівасць, сардэчнасць, дружба.

У дзень адкрыцця фестывалю было прадстаўленне кожнага прыехаўшага сюды хору, дзе мы самі выступалі і слухалі сваіх калег з розных краін, тут мы знаёміліся, абменьваліся адрасамі.

Чацвёра сутак праляцелі непрыкметна. Напярэдадні ад'езду адбыўся развітальны вечар з харавым калектывам з Венгрыі, з якім увесь гэты час мы жылі ў адным утульным атэлі.

І вось фестываль завершаны, падведзены вынікі, пераможцам уручаны дыпломы, заўтра ўсе хоры пакідаюць гэты цудоўны гарадок. У апошні вечар мы і нашы венгерскія сябры-калегі пасля вячэры разам спявалі. Мы -- беларускія народныя песні, нашы мілыя суседзі -- венгерскія народныя песні, а разам мы спявалі тыя харавыя творы, якія былі абавязковымі для ўсіх удзельнікаў фестывалю. Гэты развітальны вечар яшчэ больш зблізіў нас.

Развітанне з Італіяй адбылося ў Венецыі, куды мы прыехалі пазнаёміцца з гэтым горадам-музеем. Мы наведалі сусветна вядомы сабор святога Марка, недалёка ад яго ўзвышаецца Палац дожаў -- цяпер гісторыка-мастацкі музей.

Мы прабылі ў Венецыі каля трох гадзін, але яна ў нас у памяці назаўсёды.

**Аляксандр КУРСКОЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі хору ў Венецыі.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 627. Падпісана да друку 11. 5.1994 г.